ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# Літаратура і мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Год выдання 38-ы
№ 87 (2447)
4 лістапада 1969 г.
АЎТОРАК
Цана 4 кап.

1917
1969

НЯХАЙ ЖЫВЕ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ!

Плакат Л. ЗАМАХА.

## У ЧЫРВАНІ СЦЯГОЎ

ПРАДЧУВАННЕ гэтага свята ў кожнага з нас натуральнае і хвалюючае. Падпаліць восень лісце, пагоніць па блакіту хмары — ведаем: хутка надыдуць дні лістападаўскія. Нават малыя, і тыя рыхтуюцца сустрэць іх добрымі справамі— новай песенькай ці высокай адзнакай у дзённіку. І гэта ідзе, нібы эстафета, ад пакалення да пакалення. Хай малы прынясе ў школьным сшытку пяцёрку, юнак здабудзе спартыўны рэкорд, студэнт адкрые нешта ў складаным свеце навукі, будаўнік здасць яшчэ адзін будынак, у шкляныя вокны якога ўдарыць па-лістападаўску раптоўнае сонца, чыгуначнік па «зялёнай вуліцы» правядзе цягнік, на платформах якіх будуць па-вайсковаму строга рухацца да мэты працавітыя трактары... Пісьменнік і артыст, мастак і кампазітар, бібліятэкар і кінамеханік, супрацоўнік музея і кінадзеяч — кожны работнік культурнага фронту адзначае чырвоныя старонкі календара таксама справамі. Справы гэтыя і яны самі і наша грамадскасць вымяраюць высокімі крытэрыямі. Партыйнасць і народнасць, грамадзянскі пафас і вялікая праўда, разуменне законаў развіцця грамадства і адчуванне мэтазгоднай формы — вось дух і літара творчых шуканняў сапраўднага мастака ў краіне перамогшага Кастрычніка.

Творцы кіруюцца прынцыпамі марксісцка-ленінскай эстэтыкі.

І, набліжаючыся да знамянальнай даты—да 52-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі,— яны аглядаюць пройдзены літаратурай і мастацтвам шлях з пачуццём гордасці. Вялікі плён і здабытак народнай культуры—створаныя імі кнігі і карціны, музычныя і архітэктурныя творы, тэатральныя спектаклі і кінафільмы. Назапашаны каштоўны вопыт, які вучыць, што поспех дасягаецца адданасцю мастака высокім прынцыпам. Пачынаючы з тых векапомных дзён лістапада 1917 года, мастацтва лічыла і лічыць сябе заклікаsuccessfulым і мабілізаваным у шэрагі рэвалюцыі, на службу яе ідэалам, геніяльна вызначаным Уладзімірам Ільічом Леніным.

Праз якіх шэсць месяцаў чалавецтва будзе адзначаць дзень нараджэння чалавека, чыя думка і воля, авалодаўшы масамі працоўных, зрабілі цяперашняе стагоддзе векам сацыялістычнай рэвалюцыі і перамянілі грамадскі клімат планеты. Краіна — на працоўнай вахце. З высокім пачуццём адказнасці перад Леніным пачынаем мы кожны працоўны дзень — і кладуцца на палатно новыя фарбы, бягуць па паперы шчасліва адшуканыя ў душы радкі, з ватмана на плошчу пераходзіць смелы праект, здымаюцца кадры новага фільма... Творчы энтузіязм і мастацкі ўздым, з якімі цяпер узважваюць і ажыццяўляюць свае задумы пісьменнікі і мастакі, майстры сцэны і дойліды, грунтуецца на тым вопыце, што стаў скарбніцай нашай культуры за пяцьдзесят два гады Савецкай дзяржавы.

Мітынгі вялікай рэвалюцыі рэхам адбіваюцца ў творах, прысвечаных гераічна-рамантычнаму часу лістападаўскіх штурмаў і нашаму сённяшняму дню.

Ёсць у Пімена Панчанкі верш «Асцерагайцеся падробкі», дзе паэт з пазіцый заклапочанага ўзроўнем сучаснага мастацтва партыйнага мастака заклікае нас рашуча адмятаць з творчасці халтуру і прыстасаванцтва. Літаратурная і мастацкая грамадскасць прымаюць усе захады, каб перакрыць шлях спекуляцыі на важных тэмах. Калектыўны клопат пра дастойную сустрэчу юбілею павінен даць добры плён.

Адзін з Заклікаў Цэнтральнага Камітэта Камуністычнай партыі Савецкага Саюза асабліва актуальны для работнікаў ідэалагічнага фронту — «ДЗЕЯЧЫ ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА, РАБОТНІКІ КУЛЬТУРЫ! ВЫСОКА НЯСІЦЕ СЦЯГ ПАРТЫЙНАСЦІ САВЕЦКАГА МАСТАЦТВА, АДДАВАЙЦЕ ЎСЕ СІЛЫ І ЗДОЛЬНАСЦІ ВЫХАВАННЮ БУДАЎНІКОЎ КАМУНІЗМА!»

Час вымагае ад кожнага з нас помніць, што ў працэсе выхавання чалавека на станаўленне яго светапогляду ўплываюць і слова паэта, і песня, і фільм, і архітэктурны выгляд вуліцы. І нельга даваць сабе палёгкі, калі адрасуеш твор сучаснаму савецкаму слухачу і гледачу,— чалавеку, які кіруецца вельмі высокімі меркамі ў падыходзе да навінак літаратуры і мастацтва.

Як наказ на будучае ўспамінаем мы цяпер словы Уладзіміра Ільіча Леніна, з якімі ён звяртаўся паўстагоддзя назад да першамайскіх дэманстрантаў на Краснай плошчы: «Да гэтага часу, як аб казцы, гаварылі аб тым, што ўбачаць дзеці нашы, але цяпер, таварышы, вы ясна бачыце, што закладзены намі будынак сацыялістычнага грамадства—не утопія. Яшчэ больш старанна будуць будаваць гэты будынак нашы дзеці». Варта асабліва падкрэсліць менавіта гэта—старанна. Так, мы разумеем, што Радзіма і Партыя чакаюць ад нас добрасумленнай і стараннай працы на кожным участку ідэалагічнага фронту.

Праз тры дні працоўныя краіны будуць дэманстраваць сваю братнюю еднасць і гарачую адданасць ленінскім ідэям. Сярод святочных рапартаў аб перамогах будуць і рапарты работнікаў культуры, дзеячоў літаратуры і мастацтва. Адзначаючы тое, што намі зроблена, мы дадзім урачыстае абяцанне не спыняцца на дасягнутым і старанна ўдасканальваць майстэрства, каб ідэйна-мастацкі ўзровень нашых твораў быў варты свайго часу і народу, каб яны выконвалі высакародную місію па выхаванні будаўнікоў камунізма.

Лістапад ідзе па зямлі... Палошчуць на ветры разгорнутыя чырвоныя сцягі — сцягі барацьбы за Мір, Працу, Свабоду, Роўнасць, Братэрства і Шчасце ўсіх народаў.

НЯХАЙ ЖЫВЕ КАМУНІЗМ — СВЕТЛАЯ БУДУЧЫНЯ ЎСЯГО ЧАЛАВЕЦТВА!

## Паэтычная ПАВЕРКА

Уладзіслаў НЯДЗВЕДСКІ

### ЛЕНІНСКІМ ІМЕМ

Ён быў чалавек, барацьбой перапоўнены,
Мільёны за ім у змаганне пайшлі,
Таму што ён першы ў рукі працоўныя
Аддаў назаўжды лёс пакутнай зямлі.

Ён людзей заклікаў да ўсяго чалавечага,
І яго не забудуць ні людзі, ні час.
Сёння ў справах імкненні яго ўвекавечаны,
Сёння ў сэрцах ягоныя думкі ў нас.

І калі капітал знікне ў часе задымленым
І сатруцца граніцы, і знікне прыгнёт—
Тады неўміручым ленінскім іменем
Планету-зямлю называцьме народ.

### РАБОЧЫ

Заўсёды ў дзень урачыстага свята
У людзей і ў планеты усёй на віду
Я з ім побач, як з бацькам і братам
У віры дэманстрацый іду.

І заўжды, калі грымнуць аркестраў гукі
Так, што меднае рэха запоўніць прасцяг.
Я гляджу на яго вузлаватыя рукі,
Якімі чырвоны ўзносіць ён сцяг.

Я гляджу яму ў твар, і рашучасці выраз
Мне нагадвае твары усіх тых людзей,
Між якімі у цэху заводскім ён вырас,
Між якімі пад ленінскім сцягам ідзе.

Я лаўлю яго позірк, а ягоныя вочы
Пазіраюць з-пад сцяга ў бязмежную даль,
Дзе на ўсіх паралелях рукамі рабочых
Свабода і дружба куюцца, як сталь.

Сцяганосец ідзе. Чутны мне яго крокі,
Што у свята пад музыку міру гучаць.
Паднімае свой сцяг ён да самых аблокаў,
Каб народам зямлі быў здалёку-здалёку
Бачны на сцягу партрэт Ільіча.

© PDF: Kamunikat.org 2023

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2023

